# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар
Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя
газеты СВАБОДА
Наклад 32.370
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 2 362 441

Аўторак, 26 жніўня 1997 г. № 93 Кошт свабодны

## Акцыя

Прадстаўнікі Беларускага народнага фронту падалі заяўку ў Мінскі гарвыканкам на правядзенне ўрачыстага сходу, прысвечанага чарговай гадавіне Аршанскай бітвы. Акцыю плануецца правесці ў нядзелю, 7 верасня, аб 11 гадзіне на плошчы Якуба Коласа.

## Зарплата

Па дадзеных міністэрства статыстыкі, сярэдняя зарплата рабочых і служачых за ліпень склала 2 млн. 479 тыс. рублёў (у чэрвені была 2 млн. 361 тыс.).

## Банкруты

20 працэнтаў магілёўскіх прадпрыемстваў з'яўляюцца стратнымі. Пра гэта паведаміла абласное ўпраўленне статыстыкі.

## Міжнародны валютны фонд не падтрымлівае «рынкавы сацыялізм»

**Міжнародны валютны фонд не падтрымлівае цяперашнюю эканамічную палітыку беларускага кіраўніцтва**

У мінулую пятніцу супрацоўнікі прадстаўніцтва Міжнароднага валютнага фонду ў Мінску паведамілі беларускаму ўраду і, у прыватнасці, прэм'ер-міністру Сяргею Лінгу аб выніках пасяджэння кіраўніцтва МВФ, на якім разглядалася пытанне ўзаемаадносінаў МВФ з Беларуссю.

Выканаўчы савет дырэктараў МВФ, абмеркаваўшы работу ў Беларусі апошняй місіі фонду, падтрымаў ацэнку эканамічнай палітыкі беларускіх уладаў, дадзеную экспертамі. Сутнасць заключэння зводзіцца да таго, што эканамічная палітыка, якую праводзіць беларускі ўрад, не з'яўляецца той палітыкай, якую можа падтрымліваць МВФ.

*БелаПАН*

## Улады Рагачова супраць прымірэння?

**У мінскім Міжнародным адукацыйным цэнтры ў мінулую суботу адбылося абмеркаванне ідэі стварэння беларуска-нямецкага музея «Прымірэнне».**

Кіраўнік ініцыятыўнай групы Марат Гаравы распавёў канцэпцыю будучага музея. Частка экспазіцыі пад назвай «Дыктатары» пакажа эстэтычна-мастацкія густы Гітлера і Сталіна. *«Цікава прасачыць, як захапленне літаратурай, музыкай, архітэктурай і жывапісам фармавала этычныя погляды дыктатараў на ўладу і народ»*, — сказаў М.Гаравы. У раздзеле «Краіна-лагер» паўстануць змагары з дыктатурай і яе ахвяры. Праз канкрэтныя чалавечыя лёсы музей раскажа пра вайну, Берлінскую сцяну, Чарнобыльскую катастрофу. Марат Гаравы лічыць, што музей павінен стаць цэнтрам пошукавай работы і догляду за салдацкімі магіламі. Па ягоных словах, *«нямецкія салдацкія могілкі на тэрыторыі Беларусі разбураныя і сталі аб'ектам вандалізму»*.

Удзельнікі абмеркавання збіраюцца «змагацца» за праект «Прымірэнне». Яны прыгадвалі словы Васіля Быкава, што *«нельга харчавацца нянавісцю»*.

Рабочая група «Прымірэння» пабывала ў Рагачове, дзе планавалася сустрэча з мэрам Мікалаем Федаровічам, але ў апошні момант той адмовіўся прыняць гасцей з ФРГ. Відаць, рагачоўскае начальства спужалася, што «падмочыць» сваю рэпутацыю, зкантактаваўшы з «Прымірэннем». У размове з карэспандэнтам СВАБОДЫ Мікалай Федаровіч катэгарычна падкрэсліў, што *«ніякага беларуска-нямецкага музея ў Рагачове не будзе»*. Рагачоўскія ўлады яшчэ не гатовыя да прымірэння.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Беларускія назвы ў Сонечнай сістэме

**16 малых планет Сонечнай сістэмы носяць імёны, звязаныя з Беларуссю**

Паводле звестак беларускага астранома Уладзміра Голубева, з 6.000 з лішкам малых планет Сонечнай сістэмы (астэроідаў), зафіксаваных у каталогах, 16 маюць беларускія назвы.

Так, астэроід Дубягі названы ў гонар беларускіх астраномаў XIX стагоддзя Дзмітрыя і Аляксандра Дубягаў (бацькі і сына). Малыя планеты носяць таксама імёны беларускіх астраномаў Івана Жангаловіча, члена-карэспандэнта АН СССР Гаўрыіла Ціхава, заснавальніка касмічнага прыродазнаўства Аляксандра Чыжэўскага.

У гонар вядомых людзей, якія нарадзіліся ў Беларусі ці звязалі з ёю свой лёс, названыя астэроіды: Карбышаў (генерал-лейтэнант інжынерных войскаў, які рэканструяваў Брэсцкую крэпасць), Ота Шмідт (акадэмік АН СССР, ураджэнец Магілёва), Жукаў (савецкі маршал, які камандаваў вызваленнем Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў), Сіманаў (савецкі пісьменнік і паэт, прах якога, па ягоным завяшчанні, развеяны на Буйніцкім полі пад Магілёвам), Шагал (выдатны жывапісец і графік, які нарадзіўся ў Лёзне Віцебскай вобласці), Гастэла (лётчык, што загінуў у баі пад Радашковічамі).

Беларускія геаграфічныя назвы ў Сонечнай сістэме замацаваныя за астэроідамі: Беларусь, Мінск, Хатынь. Малая планета Брэст названая ў гонар двух аднайменных гарадоў — беларускага і французскага.

*БелаПАН*

# Пакаянную галаву меч не сячэ

*Трое расійскіх журналістаў выпушчаныя на свабоду, а трох беларусаў пакінулі ў турме. Паўла Шарамета збіраюцца трымаць за кратамі да суда*

**У пятніцу сціхлі «шпіёнскія страсці» вакол здымачнай групы Анатоля Адамчука.**

Адамчук, а таксама аператар Аляксандр Аганаў і вадзіцель Валерый Асташкін былі перададзеныя беларускімі ўладамі спікеру расійскай Дзярждумы Генадзю Селязнёву, які прыляцеў у Мінск.

Нагадаем, што ў чацвер прэс-сакратар Барыса Ельцына Сяргей Ястржэмбскі зрабіў ультыматыўную заяву, якая выклікала вельмі вострую рэакцыю Лукашэнкі. Рыгоравіч паставіў магчымасць перадачы расійскіх грамадзянаў у прамую залежнасць ад таго, ці будуць прынесеныя Крамлём афіцыйныя прабачэнні беларускаму прэзідэнту. Але потым ён, відаць, хутка зразумеў, што сатысфакцыі ад расійскага кіраўніцтва яму не дачакацца, і тады ён вырашыў хоць неяк нашкодзіць «крамлёўскім ворагам». Далейшыя перамовы аб вызваленні здымачнай групы ОРТ Лукашэнка павёў з прадстаўніком расійскай камуністычнай апазіцыі Генадзем Селязнёвым, які ўжо ў пятніцу раніцай прыбыў у Мінск.



*Жонка Маша забірае Анатоля Адамчука з беларускага палона.*

Перамовы паміж беларускім прэзідэнтам і расійскім спікерам яшчэ працягваліся, але іхнія вынікі ўжо было няцяжка прадбачыць. Многія назіральнікі сыходзіліся на думцы, што група Адамчука будзе адпушчаная з лідскай турмы, а лаўры міратворцы, безумоўна, дастануцца Генадзю Селязнёву. Гэтага, дарэчы, Лукашэнка і не хаваў. З уласцівай яму праматой Рыгоравіч паведаміў журналістам, што Крэмль быў не ў захапленні ад кансультацыяў з Селязнёвым. Па словах Лукашэнкі, яму званілі не менш 10 вышэйшых службовых асобаў з расійскага кіраўніцтва і прапаноўвалі свае паслугі — але Лукашэнка захацеў размаўляць толькі з Селязнёвым. Расійскі спікер доўга дзякаваў Рыгоравіча за праяўленую *«дабрыню і гуманізм»* і адзначыў, што нельга ставіць *«лёс нашага саюза ў залежнасць ад дробнага канфлікту»*.

У сярэдзіне дня ў пятніцу стала вядома, што расійскія журналісты ўжо прывезеныя з Ліды ў Мінск і за імі спецыяльным рэйсам з Масквы выляцеў адзін з кіраўнікоў ОРТ Аляксандр Любімаў, а таксама жонкі арыштаваных. У той жа дзень з Беларусі быў дэпартаваны карэспандэнт разанскага бюро ОРТ Уладзімір Фашэнка, які адмовіўся даваць следству паказанні (беларускія ўлады называлі яго каардынатарам *«усёй правакацыі»*).

На думку намесніка кіраўніка адміністрацыі Лукашэнкі Івана Пашкевіча, Фашэнка ажыццяўляў сувязь паміж Адамчуком і «маскоўскім цэнтрам».

Здымачную групу Адамчука прывезлі ў расійскае пасольства ў суправаджэнні асабістай аховы Лукашэнкі толькі ў 20 гадзінаў увечары. Рыгоравіч, дарэчы, прапанаваў журналістам паслугі сваёй аховы нават да самой Масквы.

Анатоль Адамчук адмовіўся размаўляць з беларускімі журналістамі, заявіўшы, што ўсе каментары будуць дадзеныя на прэс-канферэнцыі ў Маскве. Нічога не сказаў Адамчук журналістам і па прылёце ў Маскву, абмежаваўшыся агульнымі фразамі, што ён кіраваўся сваім сумленнем і адказнасцю за лёс сваіх таварышаў. Тым часам у лідскім СІЗО працягвае знаходзіцца чацвёрты ўдзельнік групы Адамчука — беларускі грамадзянін Уладзімір Косцін. Учора скончыўся дзесяцідзённы тэрмін, за час якога яму павінны былі прад'явіць афіцыйнае абвінавачванне. Па словах расійскага пасла Валерыя Лашчыніна, беларускія ўлады павінны хутка выпусціць яго на свабоду. Аб гэтым расійскі бок дамовіўся з Лукашэнкам. Ці будзе спыненая ў дачыненні да групы Адамчука крымінальная справа — застаецца невядомым.



*Уладзімір Замяталін тлумачыць Аляксандру Любімаву сутнасць «правакацыі ОРТ».*

Лёс Паўла Шарамета і Дзмітрыя Завадскага павінен вырашыць суд — заявілі журналістам Лукашэнка і Селязнёў, і толькі пасля гэтага беларускі прэзідэнт разгледзіць магчымасць іхняга памілавання.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**



*Расійскі пасол Валерый Лашчынін не столькі займаўся абаронай супрацоўнікаў ОРТ, колькі апраўдваў дзеянні беларускіх уладаў. За гэта журналісты ахрысцілі яго «паслом Беларусі ў Беларусі».*

## Безгаловы Ленін

**У райцэнтры Свіслач Гродзенскай влбласці адбылося незвычайнае здарэнне ў духу М.Булгакава: у Леніна знікла галава.**

У пасёлку ідзе рэканструкцыя цэнтральнай плошчы імя Леніна. Згодна з планам, было вырашана перанесці помнік на іншае месца, каб Уладзімір Ільіч паказваў не на захад — на рэстаран, а на ўсход — на бальніцу. Ужо і пастамент перанеслі, і плітку паклалі, засталося толькі падправіць Ільічу нос. З гэтай мэтай помнік забралі на тэрыторыю мясцовай ПМК, дзе ўначы яму нехта адбіў бетонную галаву. Мясцовыя ўлады не ведаюць, што рабіць з помнікам. Гіпсавы бюст, што стаіць у будынку райвыканкама, не здолеў замяніць адбітую галаву. Мясцовы мастак адмовіўся зрабіць іншую нават за паўтара мільёна рублёў. У бліжэйшы час лёс помніка будзе канчаткова вырашаны.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

## Банкі: працэнт зменшыўся

**Нацыянальны банк РБ панізіў мінімальныя працэнтныя стаўкі па дэпазітах і стаўку рэфінансавання.**

Калі раней мінімальная стаўка па дэпазітах, якую павінен быў прапаноўваць банк кліентам, складала 50% гадавых, то цяпер уведзеныя 2 стаўкі. Па дэпазітах насельніцтва да 6 месяцаў банкі павінны плаціць не менш за 38% гадавых, па дэпазітах больш за 6 месяцаў — не менш за 45% гадавых. Стаўка рэфінансавання (па ёй камерцыйныя банкі атрымліваюць крэдыты ад Нацыянальнага банка) паніжаная з 42 да 38% гадавых.

**А.С.**

## Брэст: ёсць ідэя стварыць 15 паркаў

**Каардынацыйны савет па ахове помнікаў гісторыі і культуры пры Брэсцкім аблвыканкаме выступіў з прапановай аб стварэнні ў вобласці 15 пейзажных паркаў.**

«База» для кожнага з іх больш чым дастатковая — часткова ўцалелыя радавыя маёнткі пісьменніка і публіцыста Юльяна Нямцовіча, мастака Напалеона Орды, былы маёнтак князя Траякурава, іншыя палацава-паркавыя ансамблі і паркі канца 18 — сярэдзіны 19 стагоддзяў, якія цяпер «паміраюць» і маюць патрэбу ў рэканструкцыі. Уладзімір Заламай, старшыня Брэсцкага аблвыканкама, паабяцаў, што будзе трымаць на кантролі гэтае пытанне, і рэкамендаваў райвыканкамам пры фарміраванні бюджэту на наступны год прадугледзець выдзяленне сродкаў на згаданыя мэты.

Недахоп сродкаў не дае магчымасці прывесці ў парадак усе гістарычныя паркі ў вобласці, якія маюць у тым патрэбу. Але наданне належнага выгляду хаця б 15 з іх мае вялікае значэнне ў справе захавання гістарычнай спадчыны.

*БелаПАН*

## Лотерея иммиграционных виз США на 1999 г.

Посольство США сообщает о начале проведения очередной лотереи иммиграционных виз США на 1999 г. В связи с тем, что сроки регистрации заявок на участие в лотерее переносятся в этот раз на октябрь—ноябрь текущего года (ранее заявки принимались в феврале), начиная уже с понедельника, 25 августа, информацию об условиях участия и требованиях к заявителям можно будет получить у охраны Посольства США в Беларуси по адресу: г.Минск, Старовиленская, 46. Лица, проживающие не в Минске, могут получить информацию о лотерее по почте, направив в Посольство соответствующий запрос по адресу: 220002, г.Минск, ул.Старовиленская, 46, Посольство США в РБ. Телефон для справок (017) 234-77-61, 231-50-00.

*Пресс-служба Посольства США в Минске*



## Копія крыжа перададзена Філарэту

**У мінулыя выхадныя ў брэсцкім Свята-Сімяонаўскім саборы мастак Мікалай Кузьміч перадаў мітрапаліту Філарэту крыж Еўфрасінні Полацкай —дакладную копію нацыянальнай святыні, якую ён выканаў за тры гады карпатлівай працы.**

Святы крыж быў выраблены ў 1161 годзе майстрам Лазарам Богшам. У 20-я гады нашага стагоддзя «ваяўнічымі атэістамі» крыжу была нанесена непапраўная шкода, а ў гады вайны ягоны след знік. *«Да не выносяць яго з манастыра ніколі, і не прадаюць, не аддаюць. Калі ж не паслухае хто і вынесе з манастыра, да не дапаможа яму сумленны крыж ні ў жыцці гэтым, ні ў будучым, да пракляты ён будзе...»* — абвяшчаў адзін з ювелірна выкананых Богшам надпісаў.

Мікалай Кузьміч, брэсцкі мастак-эмальер, узяўся за цяжкую працу — вырабіць дакладную копію страчанага святога крыжа. Блаславіў майстра на гэтую справу і асвяціў ягоную майстэрню сам мітрапаліт, падтрымаў задуму і беларускі ўрад.

Спачатку майстар вывучаў дакументы з архіваў, здымкі. Потым былі паломніцтвы ў Іерусалім, дзе выбіралі дрэва для крыжа, потым асвячалі кіпарысавы крыж. Некалькі месяцаў таму ў крыж былі змешчаныя святыні — часцінкі мошчаў святых, крыві Ісуса. Крыж брэсцкага мастака, як і крыж старадаўняга майстра, пакрыты каляровай эмаллю з выкарыстаннем золата, срэбра і каштоўных камянёў.

Цяпер ён становіцца ўласнасцю праваслаўнай царквы. У народзе гавораць, што вяртанне Беларусі святога крыжа дапаможа духоўнаму адраджэнню і ўкажа краіне шлях да росквіту.

*БелаПАН*

## Беларускі ліцэй пакуль не высяляюць

**Навучэнцы сталічнага Беларускага гуманітарнага ліцэя нарэшце атрымалі пісьмовае пацверджанне, што навучальны год яны пачнуць у сваім будынку (па вуліцы Кірава, 21), аднак знаходзіцца ён будзе пад юрысдыкцыяй Івана Ціцянкова.**

Амаль цэлы месяц навучэнцы ліцэя разам са сваімі бацькамі баранілі будынак ад перадачы яго ўпраўленню справамі. Як толькі даведаліся аб гэтым распараджэнні Рыгоравіча — увялі начныя дзяжурствы, потым пачалі ладзіць пікеты. Сабралі 5 тысяч подпісаў у сваю падтрымку. Пісалі лісты ў розныя міжнародныя арганізацыі, а таксама Хілары Клінтан, Галіне Лукашэнка і іншым вядомым людзям. Выкарысталі амаль усе магчымыя дазволеныя метады барацьбы, былі гатовыя распачаць галадоўку.

Адказ уладаў, які прыйшоў у ліцэй за подпісам намесніка міністра адукацыі Аляксандра Купцова, гучыць так: *«У мэтах арганізацыі больш якаснага ўтрымання і тэхнічнага абслугоўвання будынка па вуліцы Кірава, 21 ён пераходзіць у аператыўнае кіраванне ўпраўлення справамі прэзідэнта РБ. Ліцэй у 1997-98 навучальным годзе будзе ажыццяўляць сваю дзейнасць па ранейшым адрасе»*. Замяталін на сустрэчы з ліцэістамі запэўніваў, што будынак застанецца ім назаўсёды. Мала верыцца.

У будынку ліцэя цяпер ідзе рамонт — рыхтуюць да пачатку навучальнага года. Кіраўніцтва ліцэя лічыць, што, каб зняць напружанне, *«год дадуць пазаймацца»*. *«А далей, калі што, ліцэісты настроены змагацца, вопыт ёсць»*, — сказаў намеснік дырэктара Л.Барсшчэўскі.

**Аляксандр ШКУЦЬКО**

## У сталіцы — 255 тысяч школьнікаў

Мінскія школьнікі будуць навучацца ў 233 агульнаадукацыйных школах. З іх 19 — гэта каледжы, ліцэі і гімназіі. Як паведамілі на прэс-канферэнцыі прадстаўнікі ўпраўлення адукацыі Мінгарвыканкама, усяго ў сталічных школах да навучання прыступяць больш за 255 тысяч дзяцей. З іх 23.600 —першакласнікі. Да 1 верасня ў Мінску будзе ўведзена ў строй некалькі новых школ, адну з іх — па вуліцы Жукоўскага, 11 — у Дзень ведаў плануе наведаць прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка. Па словах прадстаўнікоў упраўлення адукацыі, рамонтныя работы завершаны практычна на ўсіх школьных аб'ектах.

*БелаПАН*



*На здымку: апошнія дні канікул*

# Кірмаш, дзе можна купіць усё да школы

**Да 31 жніўня ў Рэспубліканскім выставачным комплексе па вул. Купалы, 27 у Мінску будзе працаваць кірмаш «Дзень добры, школа». Па словах арганізатараў кірмашу, тут і школьнікі, і студэнты, і выкладчыкі змогуць набыць усе неабходныя рэчы для пачатку навучальнага года.**

У магазінах перад пачаткам навучальнага года вялікі наплыў людзей. Да прылаўкаў не падысці. На спецыяльным кірмашы купіць усё неабходнае лягчэй: і асартымент вялікі, і гандляроў больш. Таму, калі не хочаце дарэмна марнаваць час і скакаць на гэтым кірмашы з паперкай, выпісваючы — дзе танней, пачытайце нашыя нататкі. У першую чаргу нас цікавіла ніжэйшая і вышэйшая планка цэнаў на тавары, а не іхняя якасць.

### Адзенне

Мы пацікавіліся, колькі каштуе адзенне на сямі-васьмігадовых дзяцей. Самыя танныя дзіцячыя сарочкі можна набыць у мазырскай фірмы «Надэкс» (ад 75 тыс.руб.). У іх, дарэчы, сарочкі 23 колераў. Сукенка школьная (форма, карычневая) на кірмашы каштуе ад 224 да 232 тысячаў. Дзявочы фартух каштуе 47—50 тыс. рублёў. Хлапчуковы касцюм (форма, сіні) — ад 517 да 538 тысячаў.

Вялікім попытам карыстаюцца сукенкі для школьніц. Яны значна прыгажэйшыя за «форменныя» сукенкі, каштуюць крыху даражэй — ад 320 да 340 тысячаў, але іх можна насіць не толькі ў школу. Таксама прадаваліся прыгожыя сарафаны, па цане 290 тыс. руб. Спартыўныя штаны (50 працэнтаў воўны) каштавалі 67 тысячаў, з сінтэтыкі — 100 тыс. рублёў. Дарэчы, вельмі дрэнна «выглядалі» этыкеткі — немагчыма даведацца, з чаго выраблена рэч, даводзіцца кожны раз звяртацца да прадаўца. А вось спартыўныя штаны беларускіх вытворцаў карыстаюцца вялікім попытам і ў Расіі.

### Абутак

Абутку было мала: шмат непрыгожага, але дарагога. Чамусьці амаль не было выбару для самых маленькіх школьнікаў. Гандляры, напэўна, трымаюцца высновы: набывай сані летам... Яны прапаноўвалі дзецям замест шырокага асартыменту асенняга абутку звычайныя сандалі па цане 149 тыс. рублёў. Што тычыцца спартыўнага абутку, то — жах, калі лічыць за абутак тое, што там ляжала.

### Кнігі

Кніг прадаецца даволі шмат. Сярод іх вельмі карысныя: «Мама, навучы чытаць» (дапаможнік для бацькоў 3—6 гадовых дзяцей; на рус. мове) каштаваў 25 тысяч. Перад уваходам на выставу, на сталах, гандлююць усялякімі дапаможнікамі па розных прадметах і падручнікамі. Вельмі прыгожыя кніжкі для самых маленькіх прапаноўвала Мінская фабрыка каляровага друку: разгорткі-размалёўкі і іншыя кніжкі для дашкольнікаў, цэны на якія ніжэй за магазінныя.

### Школьныя прылады

Тонкія сшыткі на кірмашы каштуюць 1.400—1.500 рублёў, агульны сшытак (96 аркушаў) каштаваў 15 тысячаў, сшытак (48 аркушаў) — 5.900. Імпартныя сшыткі (48 аркушаў) каштавалі 13.200. Самы танны дзённік — 10.800. Альбом для малюнкаў — 14—30 тысячаў. Акварэльныя фарбы (14 колераў) каштуюць ад 17 тысячаў і вышэй. Стрыжні кароткія ад 1 тыс., звычайныя ад 1.100 рублёў.

Алоўкі і ручкі ў асноўным імпартнай вытворчасці і каштуюць ад 2 тысячаў. На кірмашы можна таксама набыць ручку са сваім імем. Самы танны металічны цыркуль, які нам удалося знайсці на кірмашы, каштаваў 105 тыс. рублёў. Пеналы з пластмасы беларускай вытворчасці можна было набыць за 6—8 тысячаў. Імпартныя пеналы (без напаўнення) прадавалі па цане ад 120 тысячаў. Самы танны ранец каштаваў 96 тысяч (звычайны, *made in* 80-я гады). «Сучасныя» ранцы прадаваліся значна даражэй.

Акрамя тавараў для школы кірмаш прапаноўваў мяккія цацкі, наборы «Лега», мадэлі машын і г.д. Шмат тавараў было прадстаўлена ў разліку на дарослых пакупнікоў: абутак, сарочкі і інш.

Апошнія парады наведвальнікам кірмашу «Дзень добры, школа»: не купляйце чагосьці адразу, як убачылі, бо можа здарыцца, што гэтую ж рэч вы зможаце набыць у двух кроках значна танней. Такім чынам, добрых вам набыткаў!

**Аляксандр ВАСІЛЕЎСКІ**

# Забытыя грошы

На пачатку гэтага месяца Расія аб'явіла аб правядзенні дэнамінацыі. Беларускі прэзідэнт амаль што адразу адгукнуўся заявай, што Беларусь па расійскаму шляху не пойдзе. Такім чынам, нам давядзецца яшчэ невядома колькі часу карыстацца шматнулявымі каляровымі паперкамі нізкага кошту. А між тым у сховішчах Нацбанку Беларусі ўжо пяць гадоў пыліцца ўсімі забытыя беларускія грошы. Сапраўдныя грошы.

Разам з гербам, сцягам і гімнам нацыянальныя грошы з'яўляюцца адным з неабходных дзяржаўных атрыбутаў. Пасля абвяшчэння незалежнасці Беларускай дзяржавы адразу паўстала пытанне аб стварэнні беларускіх грошай. Не гэтых разліковых білетаў (г.зв. «зайчыкаў», якія, дарэчы, былі створаныя не для замены, а для дапаўнення да савецкіх рублёў у якасці купонаў), а сапраўдных грашовых адзінак.

У 1992 годзе Прэзідыум Вярхоўнага Савета Беларусі на закрытым паседжанні зацвердзіў узоры сапраўднай беларускай валюты. Было вырашана захаваць за ёй назву «рубель». У вельмі кароткі тэрмін (каля 9 месяцаў) на спецыяльнай фабрыцы ў Германіі быў надрукаваны тыраж беларускіх рублёў. Ён складаўся з банкнотаў наміналам 1, 5, 10, 50 і 100 рублёў, эскізы якіх былі падрыхтаваныя ў Беларусі і змяшчалі выявы найбольш знакамітых асобаў беларускай гісторыі і культуры: Францішка Скарыны, Максіма Багдановіча, Якуба Коласа, Янкі Купалы і Цёткі, а таксама адметных помнікаў беларускай архітэктуры. Па словах Станіслава Багданкевіча, былога старшыні Нацыянальнага банка, банкноты мелі 12 ступеняў аховы і каштавалі падаткаплацельшчыкам каля 20 мільёнаў долараў. Агульная грашовая маса складала каля 300 мільёнаў рублёў. Быў намер зрабіць беларускі рубель дарагой валютай, каб ён каштаваў каля 1 долара ЗША. Для разлікаў меншых маштабаў меркавалася ў першыя часы карыстацца «зайчыкамі», а потым адчаканіць манеты ў самой Беларусі.

Але новую валюту нельга было ўводзіць з-за вялікай інфляцыі, якая б хутка абясцэніла яе. Таму з мэтай спынення інфляцыі Нацбанк пачаў праводзіць даволі паспяховую грашова-крэдытную палітыку. У выніку яе ў 1995 г. ужо было больш выгадным утрымліваць рублі, чым долары. Але Нацбанк не можа сам змагацца з крызісам вытворчасці, ствараць спрыяльныя ўмовы для паспяховай працы прадпрыемстваў. Гэта справа ўрада. Урад не здолеў тады падтрымаць грашовую палітыку Нацбанку, і ўвядзенне новых грошай было адкладзена.

Новыя грошы да гэтага часу ляжаць у сховішчы Нацбанка ў Мачулішчах пад Мінскам, і ў бліжэйшы час нельга чакаць іх увядзення. Як сцвярджае С.Багданкевіч, для таго, каб стварыць спрыяльныя ўмовы для грашовай рэформы, трэба плённа працаваць на працягу 6–8 месяцаў. Але гэта магчыма толькі тады, калі ў Беларусі будзе дэмакратычны і эканамічна падрыхтаваны ўрад, лічыць С.Багданкевіч. Зразумела, што такі ўрад мы будзем чакаць вельмі доўга. Па ацэнках іншых спецыялістаў, на ўвядзенне новых грошай спатрэбіцца не менш 12 месяцаў. Акрамя таго, на тых грошах прысутнічаюць яшчэ сапраўдная беларуская сімвалы, якія так не падабаюцца цяперашняму рэжыму. Таму іхняе з'яўленне ў кішэні беларускага народа здаецца вельмі малаверагодным.

Пра новыя беларускія грошы ёсць шмат рознай інфармацыі, часам нават супярэчлівай. Тавія рэчы, як грашовая рэформа, з'яўляюцца дзяржаўнай таямніцай. Усё пра беларускія грошы ведае, здаецца, толькі адзін чалавек — Валянцін Заяш, былы намеснік старшыні Нацбанка Беларусі, які займаўся ўсёй тэхнічнай падрыхтоўкай праекта. Але ён адмаўляецца размаўляць пра беларускія грошы, бо лічыць сябе звязаным гэтай самай таямніцай. Таму новыя чуткі пра беларускія грошы толькі множацца.

**Расціслаў ПЯРМЯКОЎ**

*РЕШЕНО*

# Шанс для «обманутых»

Совет министров утвердил положение *«О порядке поэтапного возмещения гражданам Республики Беларусь ущерба, причиненного незаконной финансовой деятельностью субъектов хозяйствования»*. Предусматривается, что гражданам, пострадавшим от финансовых пирамид, деньги будут возвращаться за счет рентабельно работающих предприятий. Однако шансы возврата, по мнению экспертов, довольно низки.

Как известно, многие наши граждане, решившиеся даже после печального опыта МММ вложить свои деньги в различные компании, предлагавшие огромные проценты по вкладам, организовались в Белорусское общественное объединение пострадавших вкладчиков «За социальную справедливость». Такого размаха, как в России, движение «обманутых вкладчиков» не получило, но, тем не менее, «обманутые» добились президентского указа (в октябре 1996 года) и нынешнего постановления правительства «О порядке возмещения...»

Согласно этому документу, планируется возмещение ущерба, причиненного имуществу граждан незаконной деятельностью на финансовом и фондовом рынках (имеется в виду осуществление банковских операций с денежными средствами и иными ценностями, принадлежащими гражданам, в том числе сделок, которые прикрывали осуществление банковских операций, выпуск ценных бумаг для приобретения их неограниченным кругом лиц, профессиональная деятельность по ценным бумагам), и не возмещенного виновными в причинении ущерба.

Право на возмещение получает лицо, иск которого о возмещении материального ущерба удовлетворен судом, однако решение суда не может быть исполнено по не зависящим от суда и истца причинам. Причем, согласно постановлению (а это может поставить крест на надеждах многих «обманутых»), ущерб не возмещается участникам сделок, не соответствовавших требованиям закона либо совершенных ими с целью, противоречащей интересам государства.

Выплачивать возмещение будет Белорусское общественное объединение пострадавших вкладчиков «За социальную справедливость» при заключении гражданами договора об уступке требования к лицу, причинившему ущерб. Для выплаты объединение (теперь оно преобразовано в партию) сформирует фонд, в который будут поступать средства от субъектов хозяйствования и из иных источников, однако, как сказано в документе, кроме бюджетных средств и кредитов Национального банка. Таким образом, государство сразу отстранилось от участия в этом весьма убыточном мероприятии.

К тому же правительство определило, что хозяйствующие субъекты могут перечислять средства на возмещение ущерба за счет прибыли, полученной при некоторых видах деятельности — высокорентабельного производства продукции (товаров, услуг), экспорта товаров белорусских производителей, реализации на территории республики Беларусь импортируемых высококачественных товаров, которые не производятся на ее территории.

За это субъектам хозяйствования государство не обещает ничего конкретного, а лишь гарантирует при осуществлении деятельности государственную поддержку (за исключением льгот по налогам и другим платежам в бюджет). С одной стороны, это ничего не значит, но с другой — при нынешней зависимости любой белорусской фирмы от государства для чиновников приоткрывается возможность легально содействовать отдельным фирмам, прикрываясь скромными перечислениями в фонд вкладчиков.

**Алесь САДОВСКИЙ**

*Застаўся адзін тыдзень да пачатку новага навучальнага года!*

# Таварыства беларускай мовы раіць бацькам...

Вы хочаце, каб вашае дзіця вучылася ў школе па-беларуску? Нагадваем, якія законы гэта гарантуюць.

**Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь, арт. 50:** *«...Знявага нацыянальнай годнасці караецца згодна з законам. Кожны мае права карыстацца роднай мовай, выбіраць мову зносінаў. Дзяржава гарантуе ў адпаведнасці з законам свабоду выбару мовы выхавання і навучання».*

**Закон «Аб адукацыі», арт. 6:** *«...Беларуская мова з'яўляецца асноўнай мовай выхавання і навучання ў дзіцячых дашкольных і навучальных установах...»*

**Закон «Аб мовах», арт. 22:** *«Рэспубліка Беларусь гарантуе кожнаму жыхару рэспублікі неад'емнае права на выхаванне і атрыманне адукацыі на беларускай або рускай мове. Гэтае права забяспечваецца сістэмай дашкольных установаў, агульнаадукацыйных школ».*

Ніякія іншыя інструкцыі, палажэнні і падзаконныя акты не могуць перашкодзіць рэалізацыі вашых правоў, калі яны супярэчаць вышэй пералічаным законам і Канстытуцыі.

***Што рабіць, калі ў школе адмаўляюцца прыняць заяву на навучанне дзіцяці на беларускай мове?***

Запішыце прозвішча, імя, пасаду настаўніка, які вядзе прыём дакументаў, а таксама прозвішча і імя дырэктара школы. Карэкта папрасіце зноў прыняць заяву і зарэгістраваць яе ў спецыяльным журнале.

Калі вам зноў адмовяць, папрасіце напісаць прычыну адмовы і засведчыць гэта подпісам. Калі гэтага настаўнік не выканае, папрасіце, каб гэта зрабіў завуч або дырэктар школы.

Калі, нягледзячы на ўсе намаганні, вам адмаўляюць у праве вучыць дзяцей па-беларуску, пісьмова звярніцеся да загадчыка аддзела адукацыі горада або раёна з патрабаваннем забяспечыць вашае канстытуцыйнае права вучыць дзіця па-беларуску. Будзе дарэчы, калі копіі сваёй скаргі вы адашлеце на адрас Таварыства беларускай мовы.

***Што рабіць, калі беларускамоўны клас, дзе вучыцца вашае дзіця, пераводзяць на рускую мову навучання?***

Тэрмінова, як толькі вам стала вядома пра гэта, складзіце заяву на імя дырэктара школы, дзе патрабуйце працягу навучання вашых дзяцей на беларускай мове.

Знайдзіце сярод бацькоў вашага класа тых, хто падпіша разам з вамі гэты ліст.

Заяву зарэгіструйце ў школьнай канцылярыі, копіі адашліце на адрасы раённага, гарадскога аддзела адукацыі, на адрас Таварыства беларускай мовы.

Тэрмінова сустрэньцеся з дырэктарам школы, з загадчыкам раённага або гарадскога аддзела адукацыі, дзе патрабуйце спыніць парушэнне вашых правоў на атрыманне дзецьмі адукацыі на беларускай мове.

Калі вы бачыце, што клас, дзе вучыцца дзіця, усё-такі пераводзяць на рускую мову навучання, пікетуйце органы адукацыі ці школу. Добра, калі пра пікет даведаюцца прадстаўнікі прэсы.

**Калі вашыя высілкі не дадуць плёну, звяртайцеся ў Таварыства беларускай мовы (мінскі тэлефон 33-25-11, тэлефанаваць з 15:00 да 18:00, акрамя выхадных, адрас — 220034, г.Мінск, вул.Румянцава, 13, ТБМ) або ў Беларускі Хельсінкскі камітэт (мінскі тэлефон 66-26-91, тэлефанаваць з 10:00 да 18:00, акрамя выхадных, адрас — 220049, г.Мінск, вул.Кнорына, 8, кв.23).**

Чыноўнікі імкнуцца русіфікаваць школы, не пакідаючы дакументальных слядоў. **Таму просім дасылаць нам на адрасы Таварыства беларускай мовы і Беларускага Хельсінкскага камітэта звесткі:**

— у якой школе вам адмаўлялі ў праве вучыць дзіця па-беларуску або спрабавалі гэта зрабіць;

— прозвішча, імя і пасаду таго, хто гэта рабіў;

— дату, калі вы звярнуліся ў школу;

— ці мае школа статус беларускай і колькі там было беларускіх класаў у мінулым годзе;

— прозвішча і імя дырэктара школы;

— коратка і дакладна апішыце абставіны, якімі суправаджаліся вашыя «прыгоды»: на якой падставе вам адмаўлялі ў беларускамоўным навучанні дзяцей, што пры гэтым казалі службовыя асобы, да якіх вы звярталіся, і г.д.;

— свой адрас, тэлефон.

**Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны**

# Иначе – отключим газ

**Управление делами президента РБ в своем стремлении к зарабатыванию денег для теневого президентского бюджета планирует создать новую структуру.**

На этот раз предполагается, что созданная под крылом Ивана Титенкова Национальная газоэнергетическая компания будет заниматься не менее доходными делами — расчетами за газ. Ожидается, что в число учредителей новой Национальной газоэнергетической компании войдут как белорусские, так и российские предприятия. Подготовленный пакет документов для регистрации новой компании находится сейчас на доработке. Одной из важнейших особенностей компании станет весьма доходная и важная для всей страны деятельность — предполагается, что, помимо прочего, она будет решать вопросы поставок и распределения газа, поступающего в Беларусь.

Если компания будет создана, то управление делами президента окончательно может стать, вместе со своими российскими братьями, самым главным белорусским экономическим ведомством. Контроль над газом позволит Титенкову контролировать практически любое крупное белорусское предприятие. И если что — отключать газ.

**Ян ГАЛЕВИЧ**

# Прадстаўнік Еўрапарламента нагадала правілы паводзінаў

**На мінулым тыдні ў Мінску з прыватным візітам знаходзілася член Еўрапейскага парламента Эрыка Ман.**

Яна прыбыла для ўдзелу ў канферэнцыі «Праекты беларуска-германскага супрацоўніцтва». Па сваёй ініцыятыве Эрыка Ман вырашыла вывучыць сітуацыю ў Беларусі — пасля таго, як па віне прэзідэнцкага боку спыніліся перамовы з разагнаным Вярхоўным Саветам пры пасрэдніцтве Еўрапейскага саюза. Прадстаўніца Еўрапарламента сустрэлася з экс-спікерам Станіславам Шушкевічам, экс-старшынёй Канстытуцыйнага суда Валерыем Ціхінем, шэрагам дэпутатаў Вярхоўнага Савета, прадстаўнікамі сродкаў масавай інфармацыі, а таксама прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам, прэм'ер-міністрам Сяргеем Лінгам і кіраўніком знешнепалітычнага ведамства Іванам Антановічам.

Эрыка Ман выступіла на канферэнцыі, праўда, са спазненнем, бо гутарка з прэзідэнтам зацягнулася і *«немагчыма было перарваць»*. Па словах Э.Ман, *«Еўрапарламент замарозіў з Беларуссю ўсе пагадненні»*. Гэтая міжнародная структура гатовая весці дыялог з нашай краінай, але, як адзначыла пані Ман, *«у нас ёсць свае прынцыпы, якія прадугледжваюць захаванне правоў чалавека. Нам патрэбныя доказы з боку беларускага кіраўніцтва, што яно гатовае прыняць гэтыя прынцыпы»*.

Эрыка Ман сказала, што краіны Еўрапейскага саюза схіляюцца да таго, каб разглядаць правы чалавека *«ў якасці важнейшага міжнароднага крэда, якое будзе ўлічвацца пры вырашэнні эканамічных і гандлёвых пытанняў»*. Яна адзначыла, што Еўрапарламент *«хоча ажывіць»* адносіны з нашай краінай, але ў тым выпадку, калі *«Беларусь будзе прытрымлівацца еўрапейскіх стандартаў, агульных правілаў гульні, абавязковых для ўсіх»*. Пані Эрыка Ман спрабавала пераканаць прэзідэнта Лукашэнку ў неабходнасці дэмакратызацыі грамадства, у талерантнасці да грамадскіх арганізацый, у захаванні свабоды прэсы, слова і абмену інфармацыяй.

Палітыка прэзідэнта Лукашэнкі памяншае колькасць прыхільнікаў Беларусі ў Еўрапейскім парламенце. А калі трохбаковыя перамовы не дадуць плёну, то нашай краіне пагражае не толькі палітычная, але і эканамічная ізаляцыя. Нездарма з асаблівай трывогай Эрыка Ман гаварыла на канферэнцыі пра лёс перамоваў пад эгідай Еўрапейскага саюза. Па яе словах, кіраўнік місіі ЕС Аад Коста — *«кампетэнтны чалавек»*. Эрыка Ман спадзяецца, што *«беларускі афіцыйны бок зробіць крокі насустрач»*.

На канферэнцыі адзін з нямецкіх удзельнікаў папрасіў Валерыя Ціхіню растлумачыць, што адбылося ў Беларусі. У прысутнасці Эрыкі Ман экс-старшыня КС нагадаў, што *«ў канцы лістапада адбыўся пераварот пад выглядам рэферэндуму, а сямёра канстытуцыйных суддзяў з адзінаццаці падалі ў адстаўку, бо адмовіліся абараняць таталітарны рэжым, які прыйшоў у выніку перавароту»*.

Пані Эрыка Ман заўважыла, што *«Еўрапейскі парламент заўсёды рашуча выступаў за строгі падзел улады»*. Яна спадзяецца, што пытанне пра Канстытуцыйны суд будзе таксама закранаецца на трохбаковых перамовах пад эгідай Еўрапейскага саюза.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

*Саммит в Вильнюсе*

# Президентов больше, чем лимузинов

## *Лукашенко потребовал для себя особых мер безопасности*

**В эти дни власти Литвы решают головоломку: как лучше организовать форум глав европейских стран 5—6 сентября, на который приедут 12 президентов стран Центральной и Восточной Европы.**

Особенно горячие дни сейчас у вильнюсских дорожников. По утверждению руководителя дирекции автодорог Литвы Йонаса Пулуйкиса, такой напряженной работы он не припомнит с начала 1989 года, когда Литва готовилась к приезду президента СССР Горбачева. Сейчас правительство выделило на асфальтирование главных улиц столицы 9 млн. литов. А на улицах, по которым проследуют президент Беларуси Лукашенко и премьер России Черномырдин, планируется даже наглухо заварить канализационные колодцы.

Перед организаторами конференции стоит трудноразрешимая задача: где взять столько бронированных лимузинов? У руководителей Литвы есть два бронированных «Мерседеса», которые будут предоставлены А.Лукашенко и В.Черномырдину, требующим обеспечения особых мер безопасности. Президент Литвы Альгирдас Бразаускас вместо бронированного лимузина в дни конференции будет обходиться своим служебным *«Audi V8 Lang»*. На своих машинах приедут в Вильнюс президент Латвии Гунтис Улманис и президент Польши Александр Квасьневский. Обеспечить глав других государств лимузинами обещала президентура Польши, располагающая большим парком роскошных автомобилей.

Для размещения и приема гостей выделено 153 тыс. литов. В отдалении от центра, на 21-м километре автомагистрали Вильнюс—Рига, в гостинице *«Villon»* разместится В.Черномырдин. Латышский президент Г.Улманис, Л.Кучма и А.Лукашенко будут жить в одной гостинице — в принадлежащей правительству *«Draugyste»*; А.Квасьневский и президент Эстонии Л.Мери — в гостинице *«Naujasis Vilnius»*, президент Финляндии М.Ахтисаари — в отеле *«Grybo namai»*. Президентам Венгрии, Румынии, Словакии и Болгарии отведены апартаменты в гостиницах *«Stikliu»*, *«Mabre»* и *«Sarunas»*. Как сообщает газета *Business & Baltic*, самые дорогие апартаменты будут у В.Черномырдина — 800 литов в сутки, самые дешевые у А.Лукашенко — 470 литов (117 долларов).

В пресс-центре будет аккредитовано 300 журналистов, за каждого из которых редакции должны уплатить по 30 *USD*. Крупнейший в Литве пивзавод *Utenos gerimai* предлагал в целях рекламы бесплатно обеспечить пресс-центр пивом, но организаторы-трезвенники отклонили такую идею.

Президент Литвы А.Бразаускас подтвердил, что Литва, заявившая о помощи пострадавшей от наводнения Польше, взяла на себя обязательства покрыть все затраты, связанные с конференцией, — 2,2 млн. литов, хотя официальными хозяевами саммита считаются два государства — Литва и Польша.

**Йонас ОКМАНАС**

*Яшчэ раз пра «шкодную» кнігу*

# Гістарычная праўда і цэнзурная сякера

### Слова праўды пра мінулае

Уладзімір Арлоў — адзін з тых пісьменнікаў і гісторыкаў, хто цікава і пераканаўча распавядае аб сапраўдных гістарычных і культурных каранях беларускага народа, яго надзвычай багатай духоўнай спадчыне, аб няпростым, але годным шматвекавым геапалітычным існаванні паміж варагуючымі Усходам і Захадам. Таленавіты аўтар доказна, без перабольшванняў паказвае глыбінную сувязь беларускай нацыянальнай парадыгмы з еўрапейскай цывілізацыяй, мужна разграбае аўгіевы стайні савецкай гістарычнай хлусні аб «спрадвечным адзінстве беларусаў і расіян».

Так, у расійска-беларускіх дачыненнях былі і ёсць стваральныя старонкі. Аднак, як прафесійны і сумленны гісторык, Уладзімір Арлоў не можа хаваць і не хавае ўсіх тых гістарычных фактаў, што сведчаць аб далёка не братэрскім, не бескарыслівым стаўленні расійскай дзяржавы да беларускага народа, яго гістарычнага лёсу. Перш за ўсё, ён не можа ўтойваць той факт, што на працягу вякоў Расія імкнулася захапіць нашыя землі, рабавала і нішчыла беларусаў і, у рэшце рэшт, гвалтоўна здзейсніла адвечныя мары сваіх цароў аб уключэнні беларускіх тэрыторый у склад імперыі.

Аб шматлікіх гістарычных падзеях, звязаных з «любоўю» Масквы да Беларусі, забываць нельга, бо той, хто губляе гістарычную памяць, рызыкуе зноў атрымаць тое ж самае, толькі ў яшчэ большых памерах. Дзеля таго, каб трагічныя старонкі мінулага не паўтараліся, гісторык і пісьменнік Уладзімір Арлоў дапамагае беларусам узнавіць і захаваць гістарычную памяць.

Гэта ёсць бездакорная грамадзянская пазіцыя, скіраваная на адраджэнне і выхаванне нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа. Бо толькі ведаючы поўную гістарычную праўду, народ можа свядома вызначыць свой далейшы лёс і пабудаваць нармальныя, гэта значыць узаемакарысныя (а не брутальна «братэрскія»), адносіны з суседзямі.




Зусім іншую пазіцыю займаюць тыя, хто імкнецца перашкодзіць высвятленню гэтай гістарычнай праўды, хто робіць усё, каб яна не дайшла да народа — каб ён і надалей заставаўся палітычным недаросткам, які бачыць на Усходзе толькі пернікі, а на Захадзе — адны бізуны.

### У палкоўнікаў свая «праўда»

У нас не надта шмат цікавых кніжак па гісторыі Беларусі, разлічаных на масавага чытача. І ўжо зусім мала такіх кніжак, адрасаваных малодшаму пакаленню.

Напісаныя выразна і проста, але не спрошчана, гістарычныя апавяданні для малодшых школьнікаў Уладзіміра Арлова здольныя данесці да дзіцячай свядомасці паняцце аб глыбіні і складанасці, а галоўнае — самастойным сэнсе айчыннай гісторыі, абудзіць у юных сэрцах нацыянальныя пачуцці і гонар за мінулае сваіх продкаў.

З другога боку, гэтыя апавяданні арыентуюць маладых розум на параўнальнае і больш зацікаўленае стаўленне да праблем і супярэчнасцяў гісторыі нашых суседзяў, перш за ўсё расіян ды палякаў.

Галоўнае ўражанне, якое вынясе школьнік пасля знаёмства з кнігай «Адкуль наш род», — гэта разуменне таго, што гісторыя і культура Беларусі ёсць наша найвялікшая каштоўнасць, якую не знойдзеш ні пад Масквой, ні пад Варшавай, што з суседзямі трэба шукаць сяброўства і згоды, але пры гэтым нельга траціць сваёй нацыянальнай годнасці.

Аднак адміністрацыя Лукашэнкі так не лічыць. Адзін з галоўных прэзідэнцкіх адміністратараў палкоўнік Замяталін на гэты конт мяркуе прыкладна так, як у свой час разважаў літаратурны зямляк Замяталіна — Казьма Пруткоў. У ягоным знакамітым «Проекте о введении единомыслия в России» запісана: *«Да разве может быть собственное мнение у людей, не удостоенных доверием начальства?! Откуда оно возьмется? На чем основано? Если бы писатели знали что-либо, их призвали бы к службе. Кто не служит, значит, недостоин; стало быть, и слушать его нечего. С этой стороны еще никто не колебал авторитета наших писателей: я — первый»*.

Каб адправіць пад нож «шкодную» кнігу Уладзіміра Арлова, Замяталін паклікаў на дапамогу акадэміка Яўгена Бабосава — дырэктара Інстытута сацыялогіі АН Беларусі, якому загадаў зрабіць экспертызу згаданай кнігі і *«дать заключение по вопросам искажения...»*

### У пошуках эксперта

Чаму ў пошуках экспертных зачэпак Замяталін звярнуўся не да гісторыка, а да дзеяча іншага цэха?

Сяргей Дубавец у сваім артыкуле(СВАБОДА, 25 ліпеня 1997г.) зазначае, што ў міністэрстве адукацыі няма ніводнага спецыяліста-гісторыка, здольнага палемізаваць з Ул.Арловым па пытаннях беларускай гісторыі. Бясспрэчнасць гэтага сцвярджэння відавочная. Але далей аўтар, відаць, з далікатнасці, толькі асцярожна заўважае, маўляў, *«акадэмік Бабосаў не нагэтулькі дасведчаны ў беларускай гісторыі, каб апераваць фактамі»*.

Дастаткова зазірнуць у спіс друкаваных прац Бабосава, каб пераканацца ў тым, што эксперт не мае ніякага дачынення да беларускай гісторыі як навукі. Уся ягоная навуковая дзейнасць — гэта ланцуг амаль бясконцых ідэалагічных усхваленняў або шальмаванняў кагосці ці чагосці ў адпаведнасці з марксісцкімі догмамі і лініяй ЦК. Праўда, напрыканцы 80-х—пачатку 90-х гадоў, калі здавалася, што дэмакратычныя плыні возьмуць верх, акадэмік спрабаваў дэманстраваць дэмакратычную рыторыку, разважаў пра незалежную Беларусь, рынкавую эканоміку, але хутка вярнуўся ў звыклую каляіну, бо зразумеў, што ўлада ў краіне застаецца за прыхільнікамі рэстаўрацыі мінулага.

### Акадэмік не падвядзе

Сёння, як і 20 год таму, метадалагічнае разуменне Бабосавым беларускага мінулага знаходзіцца на ўзроўні панаваўшай у першай палове XIX стагоддзя канцэпцыі «Истории государства Российского» Карамзіна. Калі ж акадэмік спрабуе наблізіцца да больш грунтоўных поглядаў, у яго нічога, акрамя спрашчэння і вульгарызацыі, не атрымліваецца.

За доказамі далёка хадзіць не трэба. У адным з апошніх сваіх артыкулаў («Не рынкавая вага, а воля народаў вызначае неабходнасць саюза Беларусі і Расіі») акадэмік Бабосаў апелюе да выказвання В.Ключэўскага: *«Геаграфія — калыска, у якой гайдаецца гісторыя»*. Далей даецца нацягнуты каментар, пачуўшы які знакаміты расійскі гісторык пачырванеў бы і, мабыць, перакуліўся б у труне, бо хоць і быў прыхільнікам вялікарускай ідэі і славянскай еднасці, але ніколі не апускаўся да прымітыўных, заідэалагізаваных трактовак гістарычных узаемадачыненняў усходніх славян. Бабосаў жа, быццам у развіццё думкі Ключэўскага, піша: *«Сапраўды, адзіная геаграфічная прастора, у межах якой фармаваліся беларускі і рускі этнасы, з'явілася агульнай калыскай іх гістарычных лёсаў, і ніякімі размежавальнымі лініямі, у тым ліку праведзенымі ў Белавежскай пушчы, іх не разарваць»*.

Прысуд гучыць усё роўна як з вуснаў самога класіка. Але ж той гаварыў толькі пра геаграфію, а не адзіную геаграфічную прастору. Паняцце апошняй значна вузейшае, чым паняцце пэўнай геаграфіі, з якога ніяк не вынікае непазбежнасць адзінства гістарычнага быцця двух суседніх этнасаў. Наадварот, Ключэўскі падкрэслівае, што агульнае жыццё людзей будуюць не адна, а тры асноўныя гістарычныя сілы: *«чалавечая асоба, людское грамадства і прырода краю»*. Геаграфія ў яго — толькі тое ці іншае месца на зямлі з уласцівымі яму прыроднымі асаблівасцямі, у межах якога рухаецца (і, у пэўным сэнсе, гадуецца) канкрэтная гісторыя канкрэтнага этнаса. Але геаграфічны фактар — не прымусовая ўмова абавязковасці выбару суседнімі этнакультурнымі супольнасцямі (інтэграванага) гістарычнага шляху.

Калі ж кіравацца павярхоўнай логікай адзінай геаграфічнай прасторы, якую прапануе акадэмік, то тады прыйдзецца лічыць наканаванай і непазбежнай інтэграцыю не толькі Беларусі і Расіі, але таксама Аўстрыі і Нямеччыны, Чэхіі і Славакіі, арабаў Бліжняга Усходу ў адзіную ісламскую імперыю...

### Час называць рэчы сваімі імёнамі

Зусім невыпадкова, што туляк Замяталін, у сваім адміністратыўным запале забараніць слова праўды пра мінулае Беларусі, звярнуўся па дапамогу да разанца Бабосава.

Фактычна ў выпадку з забаронай кнігі Ул.Арлова мы маем справу з адкрытым духоўным катаваннем беларускай культуры і нацыянальнай годнасці. Выканаўцы гэтай бруднай справы, вядома ж, не разлічваюць на падзяку беларускага народа. Ды яна і не патрэбная ім, бо іхні клопат не пра Беларусь.

Адзін з герояў калумбійскага пісьменніка Габрыэля Маркеса палкоўнік Аўрэліана Буэндзіа сумаваў ад таго, што яму ніхто не пісаў. Спецыяльна палкоўніку Замяталіну і акадэміку Бабосаву таксама не пішуць кніг. А тое, што пішуць для іншых, ім не падабаецца. Яны злуюцца і махаюць цэнзурнай сякерай. Палкоўнік Буэндзіа ў 75 год назваў сваё жыццё адным словам: «друхло». І гэта пры тым, што ён не рабіў брудных учынкаў, не шкодзіў нацыянальным інтарэсам, нікому не забараняў выказваць думкі.

Цікава, якімі словамі падсумуюць свой жыццёвы шлях нашыя палкоўнік і акадэмік?

**Д.СТРЫГУН.**

